# Прэзідэнт ЗША Дж. Буш абвясціў аб прызнанні Расіі, Украіны, Беларусі, Арменіі, Казахстана і Кыргызстана


Жыві, Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 247 (260) 27 снежня 1991 г. Пятніца. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.


## Факты, Аргументы, Комментарии, Суждения

### Вкратце

✦ Верховные Советы Туркменистана и Таджикистана ратифицировали Соглашение о создании Содружества Независимых Государств.

✦ С 27 декабря железнодорожные кассы начинают продавать билеты на поезда международного направления только за валюту.

✦ Оказание Японией экстренной помощи бывшим союзным республикам в размере 100 миллионов долларов начнется, по-видимому, в первой половине будущего года.

✦ Со вчерашнего дня в денежный оборот введены металлические монеты достоинством 50 копеек, 1, 5, 10 рублей и банковские билеты (банкноты) Госбанка СССР достоинством 500 рублей.

### Отдыхать будем. Но в другие дни

В целях создания благоприятных условий для отдыха трудящихся и рационального использования рабочего времени Совет Министров Республики Беларусь постановил перенести дни отдыха с субботы 28 декабря 1991 года на четверг 2 января 1992 года и с субботы 4 января 1992 года на понедельник 6 января.

### Казино делает ставку на Горбачева

**Передача контроля над ядерной кнопкой от Президента СССР к Президенту России произошла сразу же после выступления Михаила Горбачева по телевидению о своей отставке.**

Как заявил Борис Ельцин, Горбачеву предоставляется пенсия в размере его нынешнего оклада—в 4 тысячи рублей, а также дача, две автомашины и 20 человек охраны и обслуживающего персонала. За ним также сохраняется медицинское обслуживание.

О том, чем будет заниматься М. Горбачев на пенсии, пока ничего не известно. Ему поступило много предложений о приеме на работу в крупные международные институты, а также от... американского казино, которое предлагает ему зарплату в один миллион долларов в год.

### На праздники «зайцев» ловить не будут

**Бесплатно ездить в автобусах в новогодние дни смогут жители Могилева.**

Такой необычный подарок решили приподнести им несколько местных фирм, заранее оплативших проезд на городском транспорте за 31 декабря и 1 января.

### И воруют тоже «по-совковому»

**С ухудшением экономического положения в стране изменился и характер преступлений, совершаемых в отношении собственности граждан и их достоинства.**

Всем известны факты, когда воры-домушники выносили из квартир преимущественно деньги, драгоценности, дорогую аппаратуру и мебель. Сейчас же волна преступности из городов хлынула в их окрестности, разлилась по дачно-кооперативным товариществам. Берут в основном продукты, те закатки и запасы, которые трудолюбивые граждане приготовили себе на зиму и на последующие трудные времена. По всей вероятности, трудные времена постигли и уголовный мир. Опустевают погреба, полки, сараи. Забирают, не брезгуя, и старую одежду, постели, посуду. Известен факт, когда вор выкрутил лампочку из люстры, предварительно застелив на стул газету, а впрочем, люстру забрали тоже...

Виталий **ДАЛИДОВИЧ.**




Рисунок Олега **ПОПОВА.**

### Сроднился с моджахедами

ИСЛАМАБАД. **Бывший советский солдат, уроженец Харькова Николай Выродов, 10 лет пробывший среди афганских моджахедов, отказался возвращаться на родину.**

С 1982 года он находится в одной из группировок моджахедов. «Я не пленный,—сказал Николай на встрече с вице-президентом России Александром Руцким.—Я не желаю возвращаться домой. А если когда-нибудь и приеду, то только по туристической путевке».

Руцкому с трудом удалось уговорить Выродова написать письмо матери. Николай также сообщил, что принял ислам, собирается жениться и жить в Афганистане.

**РИА.**

### Взрыв в доме

**Страшный случай произошел в деревне Лужки Смолевичского района.**

В одном из домов хозяйка поставила на плиту еду... Зажгла спичку, и вдруг — сильный взрыв. Погибла тринадцатилетняя девочка, мать же с тяжелыми ожогами доставлена в больницу.

Как сообщил сотрудник дежурной службы пожаротушения ГУПО МВД Беларуси Дмитрий Куриленко, причиной взрыва послужила утечка газа из баллона. Кстати, подобные емкости из-за несовершенства конструкции со временем начинают пропускать газ и поэтому их запрещено держать в жилых помещениях.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**



## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб зацвярджэнні эталона Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Палажэння аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць эталон Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).
2. Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

10 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАЛАЖЭННЕ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГЕРБЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь «Пагоня» з'яўляецца сімвалам дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, адлюстроўвае гістарычны шлях беларускага народа, шматвяковае існаванне і развіццё яго дзяржаўнасці.

Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь — шчыт чырвонага колеру з выявай Пагоні белага (срэбнага) колеру.

Выява Пагоні ўяўляе сабой узброенага конніка верхам на кані ў руху. У правай руцэ ён трымае гарызантальна падняты меч, у левай руцэ — шчыт, на белым полі якога шасціканцовы залаты крыж. З левага боку ў конніка похвы мяча, з-пад сядла звісае трохканцовая гунька (папона).

2. Выява Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь змяшчаецца:

а) на будынках Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў Рэспублікі Беларусь і іншых падпарадкаваных Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў дзяржаўных органаў; на будынках мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў, судоў, органаў пракуратуры Рэспублікі Беларусь, на будынках дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтваў, гандлёвых устаноў Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца за мяжой;

б) у памяшканнях пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама ў службовых кабінетах старшынь Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, старшынь мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, у залах пасяджэнняў судоў Рэспублікі Беларусь, у памяшканнях органаў запісу актаў грамадзянскага стану і памяшканнях урачыстай рэгістрацыі нараджэння і шлюбу;

в) на пячатках і бланках дакументаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, яго Прэзідыума, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрстваў і дзяржаўных камітэтаў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў, іншых падпарадкаваных Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў органаў дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, судоў і органаў пракуратуры Рэспублікі Беларусь, дзяржаўных натарыяльных кантор Рэспублікі Беларусь, а таксама прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый рэспубліканскага і мясцовага падпарадкавання, якім заканадаўствам Рэспублікі Беларусь дадзена права змяшчаць выяву герба на пячатках і бланках дакументаў, а таксама на бланках дакументаў камісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

г) на каштоўных паперах, аблігацыях, паштовых марках і латарэйных білетах Рэспублікі Беларусь;

д) на афіцыйных выданнях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

е) на пашпарце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, а таксама на дыпламатычных і іншых замежных пашпартах, якія выдаюцца грамадзянам Беларусі;

ж) на пагранічных (памежных) слупах, што ўстанаўліваюцца на дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць быць прадугледжаны і іншыя выпадкі абавязковага змяшчэння выявы Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь.

Права карыстання выявай Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, якія не названы ў гэтым Палажэнні, можа быць нададзена толькі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

3. Рэпрадуктаванне каляровай, графічнай і аб'ёмнай выявы Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, незалежна ад яго памераў, заўсёды павінна дакладна адпавядаць эталонам каляровай, чорна-белай і аб'ёмнай выявы герба, якія прыкладаюцца да гэтага Палажэння.

4. Парадак вырабу выявы Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, масавага тыражавання выявы герба, выкарыстання, захавання і знішчэння пячаткі з выявай Дзяржаўнага герба ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

5. Асобы, вінаватыя ў зганьбаванні Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб зацвярджэнні Палажэння аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1991 г.
г. Мінск.

## ПАЛАЖЭННЕ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СЦЯГУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь з'яўляецца сімвалам дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, уяўляе сабой прамавугольнае палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна размешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй — белага, а сярэдняй — чырвонага колеру. Адносіны шырыні і даўжыні сцяга — 1:2. Сцяг мацуецца на дрэўку (флагштоку), якое фарбуецца ў залацісты (охра) колер.

Пры цырыманіялах і іншых урачыстых мерапрыемствах Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь выкарыстоўваецца з навершам ромбападобнай формы з выявай крыжа, аналагічнай крыжу на Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь. Навершы вырабляюцца з металу жоўтага колеру.

2. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь узнімаецца:

над будынкам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — пастаянна, а таксама над будынкам, дзе праводзіцца сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, — на перыяд работы сесіі;

над будынкамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — пастаянна;

над будынкамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў — пастаянна, а таксама над будынкамі, дзе праводзяцца пасяджэнні мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і іх выканаўчых і распарадчых органаў, — на час правядзення пасяджэнняў;

над будынкамі міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, дзяржаўных і грамадскіх прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама на жылых пабудовах у вызначаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь святочныя і памятныя дні;

на будынках і сродках перамяшчэння дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтваў, а таксама на будынках гандлёвых устаноў Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца за мяжой, на марскіх суднах і іншых сродках перамяшчэння, на якіх у якасці афіцыйных асоб знаходзяцца Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ці іншыя асобы, што прадстаўляюць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь або Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь,— у парадку, які зацвярджае Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

на памяшканнях для галасавання — у дні выбараў і рэферэндумаў;

у вайсковых часцях Рэспублікі Беларусь згодна з вайсковымі статутамі;

на пагранічных заставах і прапускных пунктах (мытнях) дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь;

на марскіх суднах, якія з'яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь, суднах рачнога флоту Рэспублікі Беларусь;

на спартыўных арэнах — у час правядзення чэмпіянатаў і першынстваў Рэспублікі Беларусь, міжнародных спартыўных спаборніцтваў з удзелам нацыянальных зборных і ў час узнагароджання беларускіх спартсменаў — пераможцаў міжнародных спаборніцтваў;

на іншых аб'ектах па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ці мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і іх выканаўчых і распарадчых органаў.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты таксама пры цырыманіялах і іншых урачыстых мерапрыемствах, якія праводзяцца дзяржаўнымі і грамадскімі органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, у час народных, працоўных і сямейных свят і ў іншыя памятныя дні.

3. Пры аднагасовым узняцці Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь і сцягоў іншых дзяржаў Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь павінен быць узняты з левага боку, а сцягі іншых дзяржаў — з правага, калі стаць тварам да фасада будынка або флагштока. Сцягі дзяржаў размяшчаюцца ў алфавітным парадку.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь размяшчаецца на адным узроўні са сцягамі іншых дзяржаў.

Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь на транспартных сродках (за выключэннем суднаў) размяшчаецца з левага боку ў напрамку руху, а з правага боку — сцяг іншай дзяржавы.

4. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь змяшчаецца ў памяшканнях пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама ў службовых кабінетах старшынь Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, старшынь мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і пакоях, дзе адбываецца пастаянны прыём выбаршчыкаў народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь.

5. У час жалобы па рашэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь або Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты ў жалобным афармленні. У гэтым выпадку да дрэўка (флагштока) сцяга прымацоўваецца стужка чорнага колеру, канцы якой павінны звісаць да ніжняй часткі сцяга.

Пры ўзняцці сцяга на флагштоку ў час жалобы сцяг прыспускаецца на 1/3 даўжыні флагштока.

6. Выява Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь абавязкова змяшчаецца на паветраных суднах, зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь.

7. Выява Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь можа быць выкарыстана ў дэкаратыўных мэтах у якасці дзяржаўнага і нацыянальнага сімвала такім чынам, каб пры гэтым не была праяўлена непавага да Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.

8. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь і яго выява незалежна ад іх памеру заўсёды павінны дакладна адпавядаць каляроваму эталону і схематычнай выяве, якія прыкладаюцца да гэтага Палажэння.

9. Асобы, вінаватыя ў зганьбаванні Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

10. Правілы прымянення гэтага Палажэння і парадак вырабу Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Па слядах пісьма

## І Бог, і цар, і воінскі начальнік...

**Не будзем паралічваць шматлікія абуральныя факты, прыведзеныя ў пісьме, бо менавіта яны і сталі галоўнай тэмай размовы на агульным сходзе калектыву. На яго прыехалі і мы.**

Гаспадарка мінскага аб'яднання «Гарызонт» размясцілася на землях саўгаса «Бабоўня» Капыльскага раёна. 500 гектараў зямлі, жывёлагадоўчая ферма на 114 галоў, трусаферма, парк сельскагаспадарчай тэхнікі — вось і ўсё.

Таму і калектыў тут невялікі, усяго 42 штатныя работнікі. Кіруе гаспадаркай былы галоўны аграном Капыльскага РАПА А. Кліменка.

Аднак прыйсці на гэты сход Аляксандр Кліменка не палічыў патрэбным. Відаць, яму не цікава, што думаюць пра яго людзі.

Усё было як патрэбна: кворум, рабочы прэзідыум, сакратар вёў пратакол. Аб чым гаварылі? Аб грубасці А. Кліменкі, аб зневажальных адносінах да рабочых і пенсіянераў, аб разбазарванні будматэрыялаў, аб нейкіх «сакрэтных» бартэрных здзелках з тэлевізарамі... Але лепш прадаставім слова самім удзельнікам сходу.

Р. Барай, аграном:

— Раней я працаваў у саўгасе «Доктаравічы». Пераехаў сюды, у Язвіны, паверыўшы абяцанням Кліменкі. А ён натхнёна маляваў залатыя горы: і кватэра будзе, і базу выдатную адбудуем. Што ж на самай справе? Колькі нам паступала будматэрыялаў?! І куды ўсё падзелася? Чаму наша ферма развальваецца? Паспрабаваў пацікавіцца, але дырэктар адказаў: «Не лезь!». Як вядома, мы атрымліваем з «Гарызонта» тэлевізары. Частка іх рэалізуецца па чарзе нашым работнікам. Як? За дадатковую плату асабіста дырэктару — пару пляшак гарэлкі. М. Качуру, Л. Станкевічу і А. Шахоўскаму давялося даплачваць менавіта такім чынам. А што стала з тым «волгаўскім» рухавіком, які нам без дакументаў — фактычна падарылі — даслалі з Ярцава? Збіраліся паставіць на службовы аўтамабіль інжынера. Ды толькі гэта так і не здзейснілі: дырэктар перавёз рухавік сабе дадому. Якія ж адносіны ў Кліменкі да мясцовых пенсіянераў? Што і казаць, яны часцяком дапамагаюць нам: і буртуюць, і на праполку выходзяць. Дырэктар жа нават збожжа ім не выпісаў, хоць і абяцаў. А адной бабульцы наогул адказаў: «Тваё месца даўно на...»,—і паказаў у бок могілак.

М. Качук, шафёр:

— Я афіцыйна пацвярджаю, што Кліменка патрабаваў з мяне даплату гарэлкай за тэлевізар. Нагадаю і такі выпадак. Неяк я вёз з Мінска тыя ж тэлевізары. У дарозе мяне сустрэў дырэктар і загадаў перасесці ў другую машыну. Я перасеў. Вечарам мне маю машыну вярнулі, але ўжо, натуральна, без «Гарызонтаў». Куды яны падзеліся? Наогул, Кліменка часта тлумачыць знікненне тэлевізараў нейкімі бартэрнымі здзелкамі. Якія здзелкі? У нас запчастак ад іх не дабавілася.

Кіраўнік ва ўсім павінен быць прыкладам для падначаленых. Гэта аксіёма. І калі гаспадарка коціцца ўніз, то перш за ўсё варта пільна прыглядзецца да таго, хто яе ўзначальвае. Які, скажыце, можа быць аўтарытэт у дырэктара, калі ён за законна выдзеленыя тэлевізары патрабуе ад рабочых пляшкі?

Калі ж гаварыць сур'ёзна, то тут вельмі моцна папахвае крыміналам. Гэта самы сапраўдны хабар.

Калектыў невялікі. У ім усё навідавоку. Шыла ў мяшку не схаваеш.

Аднак вернемся да сходу.

С. Цвірка, арандатар:

— Чым скончылася спроба стварыць трусаферму і перадаць яе ў арэнду? Нічым. Больш таго, яе ўжо збіраюцца закрыць. А колькі грошай убухалі ў справу! А як у нас будуюць? Дамы здаюцца з велізарнымі недаробкамі. Між тым, калі дырэктару спатрэбілася абсталяваць трэці ўласны склеп, усё імгненна знайшлося.

А. Холад, прараб:

— Дарэчы, будматэрыялы на трэці склеп адпускаліся Кліменку законна — ёсць дакументы.

Зразумела, законна можна выпісаць матэрыялы і на пяты склеп, і на шосты. Толькі вось чамусьці іншым гэтага закону не хапае і на адзін.

— Наконт будматэрыялаў. Два разы наш вадзіцель Півавараў на сваім ЗІЛ-130 (адзін раз — 19 кастрычніка) вазіў цэглу, шчыты, цэмент, шыфер у Рудзенск. Каму? Ды ці гэта, так сказаць, эпізадычны выпадак? Матэрыялы даўно транжырацца направа і налева. Усе памятаеце, як неяк шафёр Кліменкі пайшоў у водпуск. Дырэктар замест яго часова аформіў свайго сына. На сына ж выпісваліся пуцёўкі. Ды толькі хлопца ніхто на працы не бачыў — усюды ездзіў сам Аляксандр Кліменка. Але зарплату на сям'ю атрымалі. Гэта справядліва? Складваецца такое ўражанне, што многія рабочыя ВА «Гарызонт» і не падазраюць аб існаванні тут падсобнай гаспадаркі аб'яднання. І вось чаму. Бычкоў мы аддаём на камбінат у Баранавічы. Адтуль — тушонка, на якую Кліменка адразу ж накладвае сваю руку, распараджаецца ёй асабіста. Каму хоча, таму і дае. Завадчанам мала перападае. Набор матэрыялаў, які пералічыў інжынер, прама-такі просіцца на дачу. Чыю? Пэўна, УБКСУ знойдзе адказ і калі-небудзь раскажуць пра гэта рабочым. Можа, і пра тушонку раскажуць. Відавочна ж адно: А. Кліменка ў сваёй гаспадарцы нібы і Бог, і цар, і воінскі начальнік.

Галасавалі тайна, з захаваннем тут жа выпрацаванай працэдуры. Зала забурліла, калі аб'явілі вынікі: за недавер — 25 чалавек, супраць — 2, адзін бюлетэнь прызнаны несапраўдным.

Ці патрэбен ім такі кіраўнік?

Слова і за работнікамі УБКСУ МУС рэспублікі. Калі яно прагучыць, мы яшчэ звернемся да гэтай гісторыі.

**Сяргей КВІТКЕВІЧ,** загадчык аддзела сельскай гаспадаркі капыльскай раённай газеты «Слава працы».

**Іван ГЕРАСЮК,** аглядальнік «Народнай газеты».

